№ 8 (56)
Красавік 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




Фота "ПнВ"

# Попел Чарнобыля грукае ў нашыя сэрцы...

Чатырнаццаты пасьлячарнобыльскі год — дванаццаты "Чарнобыльскі Шлях". Традыцыйны і неадменны. Улады баяліся яго. Баяліся дазваляць, збаяліся і забараніць. І дазволілі менш чым за суткі да ягонага пачатку. А дагэтуль (і да самых апошніх гадзінаў) ішла мэтанакіраваная і планамерная апрацоўка жыхароў Беларусі страхам. Газеты пісалі пра новыя сьпецсродкі псіхалагічнага і фізічнага ўзьдзеяньня на людзей, якія нібыта закупленыя беларускімі карнымі органамі дзеля змаганьня з удзельнікамі акцыяў апазіцыі — пра магутныя гукавыя ўстаноўкі, пра балоны са сьлезацечным газам, пра ранцавыя апараты "Хмара" з газам "ружовы туман", ня кажучы ўжо пра вадамёты ды транспарцёры з танкамі... У дзень акцыі менчукоў і гасьцей сталіцы па радыё прасілі ўвечары не выходзіць

(Працяг на стар. 2)







На здымках: Мінск, "Чарнобыльскі Шлях-2000". Фота "ПнВ"

## Хроніка

***16 красавіка*** падчас візіту ў Мінск в.а.прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна былі затрыманыя Юрась Сьцепанішын і Алег Казарын, якія выйшлі на праезную частку праспекту Скарыны (у раёне плошчы Перамогі, дзе ў той час знаходзіўся У.Пуцін) і пачалі па-англійску выкрыкваць: "Пуцін, зьбірайся дамоў з нашай краіны". Затрыманыя былі дастаўленыя ў аддзяленьне міліцыі і адпушчаныя праз дзьве з паловай гадзіны.

***21 красавіка*** міністр унутраных справаў генерал Юры Сівакоў напісаў на імя А.Лукашэнкі прашэньне пра адстаўку. Адстаўка была прынятая з фармулёўкай "па стане здароўя". Выконваючым абавязкі міністра ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь прызначаны Міхаіл Удовікаў, які, паводле зьвестак, кіраваў разгонам мітынгу 25 сакавіка.

***21 красавіка*** ў Брэсьце адбыўся стыхійны мітынг будаўнікоў 33-га упраўленьня будтрэсту нумар 8, якія ўзводзяць у абласным цэнтры Лядовы палац. Будаўнікі патрабавалі своечасовай выплаты заробку.

***22 красавіка*** А.Лукашэнка прымаў удзел у тэлемосьце "Мінск-Масква". Размова вялася пра стварэньне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. А.Лукашэнка адказваў на пытаньні расійскай "Независимой газеты", тэлерадыёкампаніі "Мір" і радыёстанцыі "Маяк". А.Лукашэнка зноў зьвярнуўся да пытаньня стварэньня ў заходнім накірунку магутнай ваеннай групоўкі. Пра ўнутрыпалітычную сітуацыю А.Лукашэнка сказаў, што для беларускай апазіцыі характэрны адзін крытэрый дзейнасьці: чым горш, тым лепш.

(Працяг на стар.6)

# Попел Чарнобыля грукае ў нашыя сэрцы...

(Пачатак на стар. 1)

на вуліцу, бо нібыта чакаецца навальніца з моцным ветрам (напамін пра трагедыю на Нямізе) і, як звычайна, для моладзі ў школах і вну ладзіліся нейкія мерапрыемствы, каб затрымаць іх. Аднак "Чарнобыльскі Шлях-2000" адбыўся. І сабраў найбольшую за апошнія гады колькасьць удзельнікаў — да пяцідзесяці тысячаў грамадзянаў.

"...Шлях" пачаўся з плошчы Якуба Коласа ў 18 гадзінаў 20 хвілінаў. Калона з традыцыйным чарнобыльскім звонам і абразом Маці Божай ахвяраў Чарнобыля наперадзе рушыла па праспекце Скарыны ў бок плошчы Бангалор. Міліцыянтаў асабліва не было відаць (яны чакалі дэманстрантаў у машынах у дварах каля плошчы Перамогі і далей па праспекце ў бок плошчы Незалежнасьці), толькі ўздоўж калоны, якая выцягнулася больш чым на кіламетр, сноўдала машына з міліцэйскім апаратарам, які здымаў удзельнікаў шэсьця. Людзі ўспрымалі яго спакойна: не асьвіствалі і не затульвалі свае твары. Так праходзіць страх...

Калі калона рушыла, на плошчы Якуба Коласа засталося каля 200 чалавек (сяброў Кансерватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ), якія былі нязгодныя з дазволеным Мінгарвыканкамам маршрутам. Сябры КХП (БНФ) правялі асобны мітынг і абвясьцілі хвіліну маўчаньня. Разам з імі на плошчы Якуба Коласа засталіся назіральнікі беларускіх і міжнародных праваабарончых арганізацыяў. Пасьля таго, як асноўная калона адышлася ад плошчы Якуба Коласа, тут зьявіліся ваеннаслужачыя ўнутраных войскаў і сьпецназу ў чорным камуфляжы з маскамі на тварах і пачалі жорстка зьбіваць удзельнікаў мітынгу. На вачах прадстаўніка місіі АБСЕ Георга Віка і назіральніка ПЦ "Вясна" Барыса Гюнтэра былі затрыманы 17-гадовы жыхар горада Горкі Андрэй Ануфрыеў. Па папярэдніх зьвестках, якія атрымаў ПЦ "Вясна", было затрымана каля дваццаці чалавек, сярод якіх былі непаўнагадовы Аляксандр Атрошчанкаў, Андрэй Мытчык (жыхар гораду Чашнікі), Дзяніс Яроменка, Зьміцер Жураўчык, Андрэй Сацупа (іх моцна зьбівалі ў аўтобусах)... Усе затрыманыя былі дастаўленыя ў Савецкі РАУС г.Мінску, дзе на некаторых з іх былі складзеныя пратаколы аб адміністратыўным правапарушэньні.

На плошчы Бангалор адбыўся мітынг, падчас якога выступілі лідэры БНФ — Вінцук Вячорка, БСДП "Народная Грамада" — Мікола Статкевіч, АГП — Анатоль Лябедзька, Маладога Фронту — Павел Севярынец, расійскага Антыфашысцкага маладзёжнага руху — Пётр Казначэеў, старшыня Праўленьня дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы, вядомы вучоны, дасьледчык постчарнобыльскай Беларусі Іван Нікітчанка, чэшскія сенатары Ян Румл і Міхал Жантоўскі ды іншыя.



Пасьля заканчэньня мітынгу міліцыянты затрымалі два мікрааўтобусы з тэхнікай, транспарантамі і людзьмі. Іх пад канвоем даставілі ў Савецкі РАУС, дзе адзін з гэтых мікрааўтобусаў быў адразу адпушчаны з-пад варты. Людзей з другога аўтобуса высадзілі, а сам аўтобус альбо тое, што ў ім знаходзілася (міліцыянты дакладна не растлумачылі) пагражалі канфіскаваць. Тых, хто быў у гэтым аўтобусе на чале з адказным сакратаром Управы БНФ А.Кавальцом, некалькі гадзінаў пратрымалі ў РАУС, без прад'яўленьня абвінавачаньня. Дзеля высьвятленьня сітуацыі ў Савецкі РАУС прыехалі прадстаўнікі кіраўніцтва БНФ, праваабаронцы, прадстаўнік АБСЕ Крыстафер Паніко. У 23.30 міліцэйскае начальства было вымушанае даць загад вызваліць затрыманых людзей і аддаць аўтобус з тэхнікай.

Паводле паведамленьняў прадстаўнікоў ПЦ "Вясна", пікеты, мітынгі і шэсьці адбыліся ў чарнобыльскую гадавіну і ў іншых гарадах Беларусі.

У **Горадні** адбыліся адразу два пікеты: першы зь іх каля Дому сувязі, на ім прысутнічала каля 10 чалавек, а другі, у раёне Фарты, сабраў больш за дваццаць чалавек. Абодва пікеты былі дазволеныя ў ня вельмі зручны час – з 19 да 20 гадзінаў, але арганізатары – БНФ і Малады Фронт – пачалі акцыю ўжо а 18 гадзіне. Пікетчыкі трымалі плакаты з заклікам: "Абаронім Беларусь ад Чарнобыльскай бяды, ад лукашэнкаўскага рэжыму і расійскай акупацыі". Па патрабаваньні міліцыянтаў удзельнікі былі вымушаныя згарнуць плакаты да афіцыйнага пачатку мерапрыемства – 19 гадзінаў. Міліцыя здымала ўдзельнікаў пікету відэакамерай.

У **Баранавічах** пікет з нагоды гадавіны катастрофы на ЧАЭС правялі БСДП "Народная Грамада" і Баранавіцкі экалагічны саюз. Удзельнікі пікету раздавалі ўлёткі з інфармацыяй па захаваньні здароўя ва ўмовах радыеактыўнай забруджанасьці. У цэнтральнай алеі парку вісеў транспарант "Чарнобыль – 14 гадоў болю". За ходам акцыі сачылі прадстаўнікі гарвыканкаму, міліцыі і КДБ.

Мітынг у **Сьветлагорску** быў дазволены ўладамі ў досыць нязручным і малалюдным месцы, але сабраў каля 100 чалавек. Заяўку на акцыю падаваў БНФ. На мерапрыемстве прысутнічаў і нават папрасіў слова намесьнік галоўнага ўрача гораду, занепакоены станам здароўя сваіх землякоў.

У **Рэчыцы** дазволены ўладамі мітынг правялі сумесна БНФ і АГП. Акцыя адбывалася пад пільным наглядам мясцовай афіцыйнай прэсы і тэлевізіі. І хаця затрыманых не было, аднак арганізатарам пагражалі штрафам.

У **Гомелі** мясцовы БНФ падаваў заяўку на акцыю з удзелам больш як 3 тысячаў чалавек, але напярэдадні акцыі атрымаў адмову. Прычына: заяўкі на шматлюдныя акцыі мусяць падавацца ў аблвыканкам. Аднак акцыя ў горадзе ўсё-такі адбылася. У цэнтры Гомелю прайшла "Гадзіна смутку", у якой удзельнічала 150 чалавек. Супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы Яўген Мурашка разам з жонкаю, якія трымалі ў руках плакат.

У **Воршы** адбыўся санкцыянаваны пікет на плошчы Перамогі, які быў зладжаны КХП БНФ. У акцыі прыняло ўдзел каля дваццаці чалавек.

У **Віцебску** каля помніка Еўдакіі Лось прайшла хвіліна маўчаньня. А з 18.00 да 20.00 адбыўся санкцыянаваны мітынг, наладжаны Каардынацыйнай Радай Дэмакратычных сілаў Віцебску. У акцыі прыняло ўдзел звыш трохсот чалавек.

У **Барысаве**, нягледзячы на забарону шэсьця, частка ўдзельнікаў (каля 30 чалавек) сабралася каля політэхнікуму, дзе людзям было прапанавана разысьціся альбо прайсьці на прызначанае месца мітынгу. Мітынг адбываўся досыць спакойна. Лідэр мясцовай арганізацыі БСДП «Народная Грамада» Алесь Абрамовіч паспрабаваў спаліць партрэт Аляксандра Лукашэнкі і быў затрыманы. У той жа вечар сп. Абрамовіч быў засуджаны на 5 сутак.

У **Магілёве** акцыі, прысьвечаныя гадавіне Чарнобыльскай трагедыі, распачаліся ўскладаньнем вянкоў да памятнага крыжа на "Лаўсанаўскіх" могілках. Потым мерапрыемствы працягнуліся ў касьцёле сьвятога Станіслава, дзе адбылася сьв. імша, і ў праваслаўнай царкве Трох Сьвяціцеляў, дзе адбылася паніхіда. Кульмінацыяй акцыяў сталася гадзіна смутку. Удзельнікі, якіх было каля 200, расьцягнуліся ўздоўж цэнтральнай вуліцы гораду Першамайскай з запаленымі сьвечкамі. Пасьля акцыі быў затрыманы старшыня абласной Рады БНФ "Адраджэньне" Анатоль Фёдараў.

У **Бярозе** прайшла акцыя "Сьвечка памяці", у якой прыняло ўдзел каля 200 чалавек.

У **Салігорску** ўлады дазволу на правядзеньне мітынгу ў цэнтры гораду не далі. Яны накіравалі мітынгоўцаў на стадыён, дзе і адбыўся мітынг, які прайшоў ў выглядзе «Гадзіны смутку». У акцыі прыняло ўдзел каля тысячы чалавек. Арганізатары запрасілі на мітынг мясцовага сьвятара. Але праваслаўная царкоўная іерархія не дала дазволу на правядзеньне малебну ў памяць ахвяраў Чарнобыля.

# Валеры ШЧУКІН: "Грамадзянін можа і павінен адстойваць свае правы..."

***У журналіста Валерыя Шчукіна заўсёды быў свой асаблівы шлях. Калі 36 яговых калегаў 25 сакавіка арыштавалі ў Мінску на Дзень Волі, яго не было сярод іх. У гэты дзень ён быў арыштаваны... у Віцебску. Мы сустрэліся з Валерыем Аляксеевічам у рэдакцыі "Народнай Волі". Крыху больш за тыдзень заставалася да "Чарнобыльскага Шляху", і за гэты тыдзень спадар Шчукін павінен быў тройчы прайсьці праз суды ў Віцебску і Мінску – па адміністратыўнай справе за Дзень Волі, па крымінальнай – за "Марш Свабоды-1" і па грамадзянскай – у абарону гонару і годнасьці пакрыўджанага яго публікацыяй судзьдзі...***



Валеры ШЧУКІН.

***— Валеры Аляксеевіч, пры якіх абставінах вы аказаліся за кратамі ў Дзень Волі?***

— У Віцебску міліцыянты выконвалі тую самую каманду, што і ў Мінску: не дапусьціць шэсьця. І пачалі хапаць усіх яшчэ да пачатку акцыі. Схапілі двух, а на трэцім – на мне – спатыкнуліся, паколькі я аказаў актыўнае непадпарадкаваньне. Як звычайна: для таго каб запіхнуць мяне ў машыну, спатрэбілася шэсьць чалавек. Бо чацьвёра не спраўляюцца.

***— Міліцыянты ведалі, хто вы?***

— Ведалі. Больш за тое, я магу меркаваць, што пытаньне, затрымліваць мяне ці не, вырашалася ў Мінску. Бо той, хто даваў каманду, трымаў каля вуха тэлефон. У яго дастаткова высокая пасада: гэта начальнік упраўленьня грамадзкай бясьпекі Віцебскай вобласьці. Ён кіраваў аперацыяй па затрыманьні. Я паказаў сваё пасьведчаньне, але мяне схапілі мэтанакіравана. У момант, калі гэта адбылося, я браў інтэрв'ю ва Уладзіміра Плешчанкі, аднаго з лідэраў БНФ у Віцебску... Як і ў Мінску, спачатку людзей пазатрымлівалі, а потым ужо адбылося шэсьце. Адзінае адрозьненьне – меншыя, у параўнаньні са сталіцай, маштабы падзеяў.

***— Чаму вы вырашылі на Дзень Волі паехаць у Віцебск?***

— У рэдакцыі даўно ішлі размовы, што нашае выданьне – агульнабеларускае, таму пісаць трэба ня толькі пра тое, што адбываецца ў Мінску. Як вядома, Дзень Волі адзначаўся паўсюль. Я меркаваў, што ў Мінску для асьвятленьня падзеяў нашых карэспандэнтаў будзе і без таго даволі.

***— Што было далей, пасьля таго як вас запхнулі ў аўтамашыну?***

— Нас прывезьлі ў райаддзел і пачалі складаць пратакол пра "удзел у несанкцыянаваным шэсьці й мітынгу", якія пачаліся праз хвілінаў дзесяць пасьля таго, як нас забралі. Я яшчэ раз паказаў журналісцкае пасьведчаньне. Паводле логікі, мяне павінны былі выпусьціць і папрасіць прабачэньня. Я журналіст, і я магу быць дзе заўгодна, у тым ліку і на несанкцыянаваным шэсьці... Аднак намесьнік начальніка РАУС, які ня мае на гэта ніякага права, арыштаваў мяне на двое сутак, адправіў у віцебскае "Акрэсьціна". Толькі ў іх там такая ўстанова на Маскоўскім прасьпекце знаходзіцца...

***— Чым жа адрозьніваюцца ўмовы ўтрыманьня ў віцебскім разьмеркавальніку?***

— У Віцебску людзей трымаюць, як у Чачні. Там камеры без вокнаў. Адзінае, што не ў падвале, а на другім паверсе. Я прабыў там у трох камерах, усе без вокнаў. Урэшце рэшт, я запатрабаваў сустрэчы з начальнікам гэтай установы і сказаў: "Вы парушаеце ўсе нормы, якія дзейнічаюць у нашай краіне, і ў адпаведнасьці з гэтымі нормамі асьвятленьне павінна быць такім, каб я мог чытаць, не напружваючы зрок". Я запатрабаваў, каб пры маім утрыманьні тут захоўваліся адпаведныя правілы. Тады знайшлі для мяне камеру з вакном.

***— А што, у гэтых камерах без вокнаў няма сьвятла і днём?***

— Не, там гарыць лямпачка... Яна знаходзіцца ў нішы за кратамі. Ды якое гэта асьвятленьне! Прычым лямпачка тая дваццаць пяць ват – не сто пяцьдзесят! Чалавека пры такім сьвятле бачыш, але чытаць немагчыма.

Пачалося ўсё трохі раней, з таго, што нас было восем чалавек у камеры, і калі давалі есьці, прынесьлі нам не лыжкі, а нейкія абгрызкі... Дарэчы, у Мінску ўжо даюць нармалёвыя лыжкі з ручкамі, я гэтага дабіўся. А там — прынесьлі абгрызкі! Ну, я іх як шпурлянуў, дык яны па ўсім калідоры й паляцелі. Адразу прыбег дзяжурны, мяне ў калідор, паставілі перад інструкцыяй: чытай! Чытаю. "Арыштаваны абавязаны выконваць законныя патрабаваньні адміністрацыі". "Вы лічыце, — кажу, — што есьці вось гэтымі абгрызкамі – законныя партабаваньні?!". У выніку нас, трох "палітычных", перавялі ў іншую камеру і далі лыжкі. А ўсім астатнім – абгрызкі!

***— З кім вы сядзелі?***

— З Плешчанкам і Салаўянам. Нас трох затрымаў Чыгуначны РАУС Віцебску, а ўсіх астатніх – ужо Кастрычніцкі. Там у іх мяжа раёну праходзіць па сярэдзіне цэнтральнай вуліцы. Нас затрымалі на тэрыторыі Чыгуначнага раёну, а шэсьце было на іншым баку вуліцы. Таму міліцыянты спачатку больш і не хапалі. Відаць, яны думалі, што па гэтым баку пройдзе шэсьце. А людзі перайшлі на іншы бок, і хапаць іх міліцыя там ня можа: гэта ня іх тэрыторыя! Дэманстранты прайшлі добрых паўкіламетра, пакуль нарэшце пад'ехалі прадстаўнікі адпаведнага раёну.

***— Гэта праўда, што вас асудзілі проста ў міліцыі?***

— Безумоўна. Калі мінулі двое сутак арышту, якія нам траім "укатаў" намесьнік начальніка РАУС, нас прывезьлі з разьмеркавальніка ў райаддзел, а прыблізна праз гадзіну хацелі весьці ў суд (адлегласьць між імі недзе 200 метраў). Я спытаўся, ці ёсьць у іх дакумент пра прымусовую дастаўку ў суд. Мне адказалі, што прымусовая дастаўка можа быць толькі па рашэньні суда. А суд ня мае права выносіць такое рашэньне вось так, проста, ён павінен спачатку выпісаць мне позву, і калі я не прыйшоў па ёй – толькі тады можа мяне даставіць прымусова.

Я адмовіўся ісьці без позвы.Тады яны выклікалі судзьдзю ў райаддзел. Натуральна: у нас жа судзьдзі падначаленыя міліцыі! Цалкам падначаленыя! Не міліцыя выконвае ўказаньні суда, а суд выконвае ўказаньні міліцыі.

Мне прынесьлі ўсё ж позву. І я пагадзіўся, што цяпер магу ісьці. Мяне скруцілі і пацягнулі проста па калідоры. Зьявілася судзьдзя. Я стаў патрабаваць ад яе правесьці адкрыты суд, бо праз вакно было бачна, што на вуліцы людзі стаяць і рвуцца ў будынак. Іх не пускаў кардон міліцыі. Я папрасіў пусьціць людзей, але судзьдзя адмовіла. Я запатрабаваў удзелу свайго адваката. Але мне прывялі зусім іншага чалавека. Я падзякаваў і адмовіўся. За паслугі адваката я павінен плаціць. Але я ж павінен плаціць таму, хто мне патрэбен! А яны прыводзяць невядома каго, каб толькі садраць з мяне грошы за тое, што некага прывялі... У адміністратыўных

(Працяг на стар. 4-5)

# "Грамадзянін можа і павінен адстойваць свае правы..."

(Пачатак на стар.3)

справах я маю права на адваката, але — калі пажадаю. Бясплатна судзьдзя сама прадставіць яго ня можа, бо тады давядзецца плаціць за кошт калегіі адвакатаў...

Я сказаў, што маю сьведкаў, якія могуць расказаць, што я рабіў. Аднак і ў гэтым мне адмовілі. Такім чынам, мне адмовілі ў адкрытасьці суда, ва ўдзеле майго адваката і ў допыце сьведкаў. Былі таксама іншыя парушэньні, але яны ўжо больш сьпецыфічныя.

***— А ці былі сьведкі з боку міліцыі?***

— Абавязкова! Сьведкі былі вельмі цікавыя. Скажам, адзін зь іх заяўляў, што я лаяўся матам, выкрыкваў пагрозы на беларускай мове. Я кажу: але ж я рускамоўны! Калі нешта і крычу, дык па-руску. І, па-другое, я матам ніколі не лаюся.

А калі мяне цягнулі ў машыну за рукі, за ногі, я трымаў у адной руцэ асадку, а ў другой – паперу, на якой пісаў. Пры гэтым сьведка гаворыць, што я яшчэ і драпаўся, хапаў за пагоны, ірваў гузікі і да таго падобнае. Я прапанаваў правесьці сьледчы эксьперымент: няхай мяне гэтаксама возьмуць, з пісьмовымі прыладамі ў руках, і паглядзім, як я магу драпацца ды яшчэ нешта такое рабіць.

Мяне абвінавацілі па двух артыкулах: 167 прым. – за ўдзел у несанкцыянаваным шэсьці і мітынгу (я яшчэ раз сьцьвярджаю: мяне ўзялі да іх пачатку, я тэарэтычна ня мог у іх удзельнічаць!) і за непадпарадкаваньне міліцыі (арт. 166). І яшчэ: што я арганізатар гэтага. Які арганізатар? "А вы там вялі ўлік". Я бяру інтэрв'ю ў Плешчанкі, а мне кажуць: "Вы ж там стаялі з Плешчанкам і адзначалі, хто прыйшоў, а хто не прыйшоў". Ну што можна запярэчыць супраць такой "жалезабетоннай" логікі?!

Мяне забралі з усімі атрыбутамі: тры асадкі, дыктафон, запасная касета, два пасьведчаньні журналіста... Бачна ж, што пры мне – поўны камплект журналіста! А 166 артыкул толькі тады ўступае ў сілу, калі я аказаў непадпарадкаваньне *законнаму* патрабаваньню міліцыі. Патрабаваньне міліцыі да мяне было незаконным. Судзьдзя, каб асудзіць мяне па гэтым артыкуле, павінен спачатку разгледзець справу па арт. 167. Устанавіць, вінаваты я ці невінаваты. Калі я вінаваты, тады ён мяне пакарае і за адно, і за другое. Калі я невінаваты, тады другі артыкул аўтаматычна ня дзейнічае. Але судзьдзі гэта незразумела.

Ёсьць такое паняцьце "прэзумпцыя невінаватасьці". Але судзьдзя зыходзіць з таго, што я вінаваты. Раз я не падпарадкоўваўся міліцыі – значыць, я ўжо вінаваты. Яна толькі вызначае ступень пакараньня. І яна мне прысудзіла 10 сутак арышту.

Наша заканадаўства адрозьніваецца ад амерыканскага, згодна з якім хоць дзесяць абвінаваўчых артыкулаў і па кожным табе даюць 50 гадоў — атрымліваеш 500 год турмы. Там усе тэрміны складваюцца, можаш атрымаць пяць пажыцьцёвых і г.д. А ў нас тэрміны паглынаюцца максімальным артыкулам. Калі я меў два артыкулы абвінавачаньня, дык павінен быў дзейнічаць той жа прынцып. Напрыклад, калі па адным мне даюць 10 сутак, па другім – 15, дык агульнае пакараньне будзе 15 сутак...

Але судзьдзя нібыта пра гэта ня ведае. Яна мяне судзіць за непадпарадкаваньне, а потым спрабуе судзіць па 167-м! Калі яна мне дасьць яшчэ 10 сутак па 167-м – значыць, яшчэ давядзецца сядзець... Я ня ведаю, дзе гэтая судзьдзя вучылася і па якіх законах яна судзіць. Але ж не па нашых законах! Яна павінна адначасова разгледзець два пратаколы, прычым – у той пасьлядоўнасьці, пра якую я казаў, а не наадварот. Але яна падзяліла іх на асобныя справы і спрабавала мяне судзіць другі раз.

***— Як гэта было?***

— Напрыканцы дзясятых сутак, калі я ўжо намерваўся выйсьці на волю, мне сказалі: "Шчукін, з рэчамі на выхад!". – "Куды?" – "У суд". – "Які суд? Я маю яшчэ тры гадзіны, якія павінен адсядзець." Я ня меў пры сабе гадзіньніка, але арыентаваўся па зьменах аховы. Зьмена была ў дзевяць гадзінаў раніцы, а гэтая размова адбывалася амаль адразу пасьля яе.

Прыходзіць "калідорны" – я яго не паслухаўся, дзяжурны прыбягае – кажу, што я яшчэ не адсядзеў сваё. Начальнік прыходзіць – кажу тое ж самае. Тады ўрываюцца ў камеру шэсьць чалавек з райаддзелу, і як я ляжаў — босы, без шкарпэтак, сяк-так апрануты, — так і ўзялі за ногі, за рукі ды пацягнулі на суд.

Калі цябе цягнуць, а ногі босыя, голыя па прыступках стукаюць, потым яшчэ па асфальце, як па наждачнай паперы, скрабуць – скажу шчыра, не вельмі прыемна. Вядома, я быў увесь падрапаны. Не тое што гэта адмыслова было зроблена, проста гэтак цягнулі ў райаддзел. А якраз перад гэтым там ужо зьявілася прадстаўніца АБСЕ Надзея Дударава. Ёй сказалі, што тут будзе суд. Я запатрабаваў пастанову суда аб прымусовай дастаўцы альбо, калі яе няма, – даць мне магчымасьць ісьці ў суд самому. Зноў судзьдзю клічуць у РАУС. Зноў нікога больш не пускаюць. У будынак прапусьцілі толькі Дудараву і прадстаўніка БХК з Віцебску. І то – толькі дзякуючы Дударавай, сам бы ён туды, відаць, не прабіўся б. А я ўсё яшчэ быў босы: як прыцягнулі ды кінулі, так і ляжаў у камеры, нават не ўстаючы. "Цягніце далей!" – кажу. Але ж пры прадстаўніцы АБСЕ — ці ж цягнуць мяне?! Заставаліся апошнія дзесяць метраў, але не рызыкнулі.

Гадзіны дзьве са мной гутарылі, потым прынесьлі судовую позву. Я запытаў: "Вы мяне што, адпускаеце? Значыць, я вольны чалавек, давайце мае рэчы, і я пайшоў". Не адпускаюць... Мяне ўратавала тое, што ўмяшалася Надзея Дударава. Што яна там казала судзьдзі, я ня ведаю, але судзьдзя дамовілася са мной: я прыходжу, а яна лаяльна ставіцца да майго патрабаваньня мець свайго адваката.

***— Але чаму той другі суд так і не адбыўся?***

— Я прыйшоў у будынак суда ды так і стаяў перад судзьдзёй, як партызан на допыце: босы, брудны... Я заявіў хадайніцтвы пра адваката, допыт сьведкаў. І вось толькі тады мы дамовіліся на канкрэтны дзень для працягу маёй справы! Я павінен быў зьезьдзіць у Мінск, знайсьці грошы, аплаціць паслугі адваката. А адваката ніяк нельга выклікаць адразу, патэлефанаваць і сказаць: "Прыйдзіце на суд". Ён ня мае права прыйсьці, пакуль я не заплачу грошы.

Такім чынам, толькі дзякуючы АБСЕ і асабіста Дударавай мяне адпусьцілі – інакш судзьдзя мне "уляпіла" б яшчэ дзесяць сутак арышту. Толькі калі мяне адпусьцілі, а потым я прыехаў з адвакатам, суд ішоў "жалезна" па ўсіх правілах. Працэс быў адкрыты, прапускалі ўсіх, хто таго хацеў, была абарона, былі ўсе сьведкі, якіх я заявіў. Судзьдзя нават мантыю апранула дзеля такога выпадку!

Я не дарэмна адсядзеў у Віцебску дзесяць сутак: мяркую, такога беззаконьня больш там не паўторыцца. Я, дарэчы, падаў у пракуратуру заяву на прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці таго, хто даў каманду мяне затрымаць – за незаконнае, падкрэсьлю, затрыманьне – і таго, хто мяне арыштаваў – за незаконны арышт. Няхай пракуратура разьбіраецца. У тым ліку з тым, што яны мне нанесьлі матэрыяльныя страты: парвалі плашч, касьцюм, пакуль мяне запіхвалі ў машыну. Не тое каб сьпецыяльна рвалі, але... Падкладка распаўзлася па нітках. У тэатр ужо ня пойдзеш. Мне давялося купляць сабе новы касьцюм і новы плашч. Дарэчы, гэта ўжо не першы плашч і не першыя касьцюм ды кашуля, якія на мне парвалі пры такіх абставінах. Я ж не мільянер! Кожнае другое затрыманьне сканчаецца тым, што на мне нешта рвуць. Я думаю, што буду з іх патрабаваць кампенсацыі стратаў...

***— Спадар Валеры, пасьля 17***

***кастрычніка міліцыя ж, наадварот, прад'явіла матэрыяльныя прэтэнзіі вам. Што вы дубінкі паламалі, форму міліцыянтам парвалі... Распавядзіце, які працяг гэтыя прэтэнзіі мелі.***

— Пракуратура гораду Мінску даслала мне пісьмовае абвінавачаньне, што я пакраў у міліцыянтаў і пашкодзіў маёмасьць і сьпецсродкі на суму 63 875 000 рублёў (недэнамінаваных). А што я "скраў і пашкодзіў"? Мехавыя курткі міліцэйскія, плашч-палаткі, шчыты, каскі; разьбіў аўтобус, дзьве легкавыя машыны, дзьве грузавыя машыны... І гэтак далей. Па гэтай справе ажно шэсьць зыскаў на суму запатрабаванай кампенсацыі недзе 15 тысяч даляраў. Гэта грамадзянскія зыскі, толькі заяўленыя пракурорам гораду Купрыянавым.

***— Менавіта па гэтым абвінавачаньні будзе з вамі разьбіраціца гарадзкі суд 24 красавіка?***

— Увогуле, мяне абвінавачваюць у арганізацыі і асабістым удзеле ў вядомых падзеях 17 кастрычніка на мосьце праз Сьвіслач, па вуліцы Пуліхава. Хоць супраць мяне нічога няма, нават няма ніводнага кадру са мною, дзе я з каменем ці проста так. Іх і быць не магло, бо мяне на тым месцы не было ўвогуле. А тое, што я – арганізатар... Так, я падаваў заяўку. Але гэта ж не азначае арганізацыю канкрэтнай падзеі, гэта розныя рэчы. Я ня ведаю, за што яны будуць мяне судзіць. Ну няма супраць мяне абсалютна нічога! Акрамя, можа, таго, што я перад гэтым ішоў у першым шэрагу. Мне кажуць, што я арганізоўваў асабістым прыкладам: вёў за сабой дваццаць тысячаў людзей. Ды за такія рэчы ордэны даваць трэба!

Я прагледзеў усе здымкі: і міліцэйскія, і розных тэлеканалаў – сябе нідзе на вуліцы Пуліхава не знайшоў. Няма ніводнага сьведкі, што я быў на Пуліхава. Увогуле, калі ідзе размова пра масавыя беспарадкі, дык за іх адказвае той, хто іх арганізаваў, і той, хто непасрэдна біўся, але той, хто проста прысутнічаў на тым месцы, ня можа несьці адказнасьці. А я ж – нават не прысутнічаў пры гэтым.

***— А што гэта за суд 26 красавіка – зыск да вас аб абароне гонару і годнасьці?***

— Пакуль што я не знаёміўся з гэтай справай – усё часу няма. Зыск падала судзьдзя Партызанскага суда Мінску. Яна пакрыўдзілася на нейкую маю публікацыю. Магу меркаваць, што я пісаў пра недастойны ўчынак, незаконнае прыцягненьне да адказнасьці рабочых з МАЗу. Відаць, за адзін з такіх артыкулаў яна на мяне і падала ў суд. Ня ведаю, колькі там мільярдаў кампенсацыі за маральныя страты...

***— Вы не шкадуеце, што 25 сакавіка зьехалі ў Віцебск?***

— Не. Наадварот, я лічу, што зрабіў патрэбную справу. Я сяму-таму навучыў віцяблян. Для іх было адкрыцьцём – што можна вось так адкрыта дыктаваць свае ўмовы, што грамадзянін можа адстойваць свае правы... Я ім на практыцы даў урок, як можна сябе паводзіць. Той вопыт, які я назапасіў, трэба ж камусьці перадаваць! А тое, з чым я сутыкнуўся ў Віцебску, я прайшоў у Мінску яшчэ ў 1997 годзе.

**Гутарыла Тацяна СЬНІТКО.**

# Чужыя ў сваёй краіне

### *Улады забаранілі правядзеньне фестывалю чарнобыльскіх дзяцей*

З 24 па 26 красавіка Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" разам з Міжнароднай асацыяцыяй гуманітарнага супрацоўніцтва планаваў правесьці конкурс-фестываль "Людзі сьвету", у якім зьбіраліся ўзяць удзел 12 маладзёжных цэнтраў з розных рэгіёнаў Беларусі, галоўным чынам з раёнаў, якія забруджаныя радыяцыяй, такіх як Буда-Кашалёва, Маларыта, Бабруйск, Чачэрск, Лельчыцы ды інш.

У Беларусі створана каля 30 маладзёжных цэнтраў пры падтрымцы БДФ "Дзецям Чарнобыля", МАГС і пры дапамозе партнёраў з розных краінаў, уключаючы Германію, Канаду, Нарвегію і іншыя краіны без усялякай дапамогі з боку дзяржавы. Гэтыя цэнтры ствараліся дзеля таго, каб дапамагчы моладзі наладжваць адносіны між сабою. У цэнтрах маладыя людзі займаліся творчасьцю па чатырох накірунках. Моладзь атрымлівае навыкі працы на кампутары, вывучае замежныя мовы, гісторыю Беларусі (краіназнаўства) і праводзіць сацыяльную працу — дапамагае сталым людзям у сваім раёне. 12 лепшых маладзёжных цэнтраў мелі гонар прадстаўляць свае раёны на конкурсе-фестывалі. На працягу 9 месяцаў моладзь рыхтавала свае конкурсныя праграмы да паказу на фестывалі. Сэнс кожнага выступленьня заключаўся у тым, каб паказаць традыцыі, абрады, песьні, танцы розных краінаў, у якіх пабывала моладзь з Беларусі. Кожная з групаў прадстаўляла культуру адной з краінаў — Германіі, Швейцарыі, Ірландыі, Аўстрыі, ЗША ды інш. краінаў. У кожным выступленьні прасочвалася цесная, цёплая, сяброўская сувязь паміж людзьмі з Беларусі і краінай, якую яны прадстаўляюць.

Фестываль планавалася правесьці ў дні 14-ай гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Месцам правядзеньня быў абраны лячэбна-аздараўленчы цэнтр для моладзі ў Ждановічах. 25 красавіка ад плошчы Незалежнасьці г.Мінску адыходзіў аўтобус з удзельнікамі фестывалю і гасьцямі, яшчэ два аўтобусы далучыліся да ўдзельнікаў у Ждановічах. Калі ўсе сабраліся на плошчы Незалежнасьці, высьветлілася, што напярэдадні, 24 красавіка, загадам Савету бясьпекі правядзеньне фестывалю ў Ждановічах было забароненае – адтуль паступіў тэлефонны званок дырэктару лячэбна-аздараўленчага цэнтру. Кіраўнікі Фонду "Дзецям Чарнобыля" зьвярнуліся ў АБСЕ з просьбай разгледзець гэтую сітуацыю. КНГ АБСЕ накіравала свайго назіральніка Крыстафера Паніко.

Прыехаўшы на базу адпачынку моладзі, удзельнікі не знайшлі дырэктара аздараўленчага комплексу. Адказ на шматлікія пытаньні быў дадзены адной з супрацоўніц комплексу: "Вам сюды нельга, гэта ня месца для бэнээфаўскіх сходаў", а таксама "Сыходзьце адсюль (з тэрыторыі комплексу), я толькі што прыбрала тут. Вы што, ня бачыце, у нас рамонт?" Моладзь з Чарнобыльскай зоны выгналі з комплексу, разлічанага ў першую чаргу на тое, каб прымаць людзей з Чарнобыльскіх рэгіёнаў. Напярэдадні дырэктар гэтага комплексу сказаў: "Я – салдат. Я выконваю загад".

Прадстаўніца Міністэрства адукацыі А.В.Шароп, якая зьяўлялася адным з членаў журы, прадстаўнік АБСЕ, прадстаўнікі прэсы і інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, якія планавалі асьвятляць ход фестывалю, а таксама замежныя госьці назіралі за гэтым праваым "бязьмежжам". За арэнду памяшканьня была заплочаная сума, эквівалентная 2 тыс. даляраў ЗША. Арганізатары фестывалю адразу зразумелі, што гэтыя грошы страчаныя. Моладзь была шакіраваная і вельмі засмучаная тым, што, магчыма, ёй не давядзецца выступаць.

Аднак, як і абяцалі дзецям старшыня Праўленьня фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы і кіраўнік Асацыяцыі гуманітарнага супрацоўніцтва Ірына Грушавая, сьвята адбылося, хоць гэта і каштавала ім неверагодных высілкаў. Фестываль прайшоў у маленькім памяшканьні клубу абутковай фабрыкі ў самым цэнтры Мінску. І кожнае выступленьне было вельмі цікавым.

На жаль, тое, што адбылося з моладзьдзю ў Ждановічах, яшчэ раз адлюстравала, што вельмі часта інтарэсы чарнобыльцаў ня толькі ігнаруюцца дзяржавай, але і могуць быць разбураныя бязьлітаснай, халоднай і абыякавай дзяржаўнай машынай.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**




Моладзь на "Чарнобыльскім Шляху-2000". Фота "ПнВ"

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*21 красавіка* штотыднёвая газета "Свободные новости" надрукавала сенсацыйныя падрабязнасьці зьнікненьня 16 верасьня 1999 году старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі РБ Віктара Ганчара. У газету трапіла відэастужка з прызнаньнямі шафёра В.Ганчара Яўгена Лычова, які цяпер знаходзіцца за мяжой. Яўген Лычоў паведаміў наступнае: "Апошні час мы з Віктарам Іосіфавічам часта заўважалі, што за намі сочаць. (...) У той дзень сачылі ад самага пад'езду да лазьні. Пра ўсё гэта я пазьней гаварыў сьледчым і міліцыі. Але гэтыя паказаньні ня ўнесіліся ў пратакол абсалютна. У той дзень, калі мы пад'ехалі да лазьні, я заўважыў з яе тыльнага боку БМВ цёмнага колеру 7-й мадэлі.(...) За 15 хвілінаў да выхаду Ганчара і Красоўскага з лазьні я паехаў па адным даручэньні. За мною рушыла другая іншамарка, якая "пасьвіла" мяне да выезду з гораду. (...) Пасьля ўсяго, што адбылося, на мяне выйшлі некалькі сьведкаў захопу. Справа ў тым, што я жыву ў раёне лазьні, дзе былі ў той дзень Ганчар з Красоўскім, таму ім няцяжка было са мною зьвязацца. Як і меркавалася, захоп рабіўся дзьвюма машынамі. Адна легкавая машына блакавала джып Красоўскага сьпераду, другая — ззаду. З двух бакоў выскачылі людзі, выбілі шкло ў джыпе і волакам выцягнулі з аўто Ганчара і Красоўскага. Іх пасадзілі ў розныя машыны. Джып спрабавалі завесьці, але не завялі. (...) Хутчэй за ўсё, джып адцягнулі на буксіры. Пасьля захопу мяне сталі актыўна апрацоўваць. У ГУУС Мінгарвыканкаму мяне гвалтоўна дастаўлялі людзі ў масках. Без позваў, без ніякіх тлумачэньняў. Сьледчых цікавіла ня дзе знаходзяцца Віктар Іосіфавіч і Красоўскі, а інфармацыя, якой я валодаю. Я быў выпушчаны пасьля таго, як з мяне спрабавалі выбіць, каб я гаварыў: Ганчар зьбег. Калі мяне выпусьцілі... да мяне сталі прыходзіць нейкія людзі, фактычна я перастаў жыць дома".




*26 красавіка на чарговым судовым паседжаньні па справе былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра ў сваёй абвінаваўчай прамове пракурор В. Жынгель запатрабаваў для падсуднага 5 гадоў пазбаўленьня волі з адбыцьцём пакараньня ў зоне ўзмоцненага рэжыму... Слуханьне справы працягнецца 2 траўня.*

На *22 красавіка* прыпала вялікая субота для каталікоў, а беларускія ўлады менавіта на гэты дзень прызначылі суботнік (дзень абавязковай бясплатнай працы).

*26 красавіка* Валерый Шчукін (журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня) выкліканы ў суд Савецкага раёну ў якасьці адказчыка да судзьдзі Марыі Фёдаравай. Пачаліся слуханьні грамадзянскай справы па зыску да яго судзьдзі Заводзкага суда г.Мінску Ж.Хвайніцкай аб абароне гонару і годнасьці.




*24 красавіка ў Гарадзкім судзе г.Мінску пачаўся разгляд крымінальнай справы па абвінавачаньні Міколы Статкевіча (старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада") і Валерыя Шчукіна (журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня) па арт.186.3 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь (арганізацыя ці актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак...). Абвінавачаньне ў адносінах да М.Статкевіча ўключае ў сябе дзьве часткі – па падзеях 27 ліпеня 1999 г. (сьвяткаваньне Дня незалежнасьці) і 17 кастрычніка 1999 г. ("Марш Свабоды-1"). Абвінавачаньне ў адносінах да В.Шчукіна, зьвязанае з падзеямі 17 кастрычніка. Пракуратура г.Мінску ў інтарэсах зацікаўленых арганізацыяў, сярод якіх ГУУС Мінгарвыканкаму, Рэспубліканскі шпіталь МУС РБ, ГП "Трэст Гордармеханізацыя" Упраўленьне "Мінскзеленбуд", даслала грамадзянскія зыскавыя заявы ў Гарадзкі суд, каб спагнаць з арганізатараў 2 395 959 дэнамінаваных беларускіх рублёў за нанесеную дэманстрантамі шкоду. Гэта каля 25000 даляраў ЗША.* **На здымку**: *В.ШЧУКІН і М.СТАТКЕВІЧ у зале суда.*

# 5 сутак, 3 сутак, папярэджаньне...

## У Мінску прайшлі першыя суды над затрыманымі падчас "Чарнобыльскага Шляху-2000"

***27 красавіка*** ў судзе Савецкага раёну г.Мінску разглядалася адміністратыўная справа жыхара г.Ліды *Юрыя Кузьміцкага,* які быў затрыманы 26 красавіка пасьля заканчэньня мітынгу. Ю.Кузьміцкі нёс у руках вялізны нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг. Супрацоўнікі міліцыі запатрабавалі ў яго, каб ён аддаў сьцяг, пасьля павалілі на зямлю і сталі зьбіваць. Ю.Кузьміцкі быў дастаўлены ў РАУС Савецкага раёну г.Мінску. 27 красавіка судзьдзя Руслан Казадаеў вызначыў меру пакараньня – 5 сутак адміністратыўнага арышту.

***27 і 28 красавіка*** ў судзе Савецкага раёну г.Мінску адбыўся суд над 19 гадовым *Сяргеем Цэрахавым*, які быў затрыманы 26 красавіка ў 20.00 разам са сваімі 16-гадовым стрыечным братам (быў адпушчаны, бо непаўнагадовы). Братоў затрымлівалі тры асобы ў цывільным. На судзе ў якасьці сьведкаў выступалі супрацоўнікі міліцыі. Сьведка С.Чарніцкі, сьцьвярджаў, што С.Цэрахаў "лаяўся матам у адрас прэзідэнта". С.Цэрахаў быў асуджаны па арт.156 Адміністратыўнага кодэксу (дробнае хуліганства) да 3 сутак адміністратыўнага арышту.

***27 красавіка*** ў судзе Савецкага раёну разглядалася адміністратыўная справа *Дзяніса Яроменкі*, затрыманага 26 красавіка падчас Чарнобыльскага шляху. Д.Яроменка быў затрыманы за тое, што нёс хакейны шлем на швабры. Супрацоўнікі міліцыі, ведаючы захапленьне хакеем А.Лукашэнкі, палічылі, што швабра са шлемам зьяўляецца адлюстраваньнем першае асобы ў дзяржаве. Затрыманы Д.Яроменка адстойваў свой погляд – "гэта не сімвал, гэта проста швабра". Судзьдзя Іна Шэйко вынесла Д.Яроменку папярэджаньне.

Затрыманыя 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа *Зьміцер Жураўчук* і *Андрэй Сацупа* былі моцна зьбітыя ў міліцэйскіх машынах па дарозе ў Гарадзкі аддзел міліцыі Ленінскага раёну г.Мінску. Усю ноч затрыманыя правялі ў ГАМе Ленінскага раёну, а зранку начальнік ГАМу выпісаў ім штраф у памеры 10 мінімальных заробкаў. Вызваленыя З.Жураўчык і А.Сацупа пайшлі здымаць пабоі. У лякарні высьветлілася, што ў З.Жураўчыка зламанае рабро.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

# Маўчаньне ёсьць згода?..

## У Мінску пад патранажам уладаў і праваслаўнай царквы працягваецца распальваньне міжнацыянальнай і міжканфесійнай варожасьці

20 красавіка ў Гарадзкім судзе г. Мінску быў адкладзены разгляд скаргі яўрэйскіх арганізацыяў і прыватных асобаў – Якава Гутмана і Якава Басіна на "Вызначэньне" судзьдзі суда Савецкага раёну М.Фёдаравай па спыненьні вытворчасьці па зыску яўрэйскіх арганізацыяў і прыватных асобаў да ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва", Мінскай фабрыкі каляровага друку, П.Багамолава, П.Пархімовіча, П.Сокалава аб абароне гонару і годнасьці, дзелавой рэпутацыі і матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды, зьвязаных з выданьнем кнігі "Война по законам подлости" (Выдавецтва ЗАТ "Православная инициатива", 1999 г.).

Слуханьне па справе перанесенае на 11 траўня. Пра сутнасьць гэтай кнігі яскрава сьведчаць дзьве ніжэйпрыведзеныя цытаты: *"Факт, што ў Нью-Йорку і яго ваколіцах з-за асьцярогі "апаганіць" іўдзейскіх спажыўцоў мяса ніякага іншага, акрамя кашэрнага, не прадаюць зусім і не падаюць у рэстаранах... Неіўдзейскае насельніцтва гэтага гораду, колькасьць якога ў некалькі разоў пераўзыходзіць колькасьць іўдзеяў, якія там жывуць, павінна падпарадкоўвацца волі меншасьці і есьці тое, што ядуць іх "паны". (ст. 52).*

*"Народ, які спавядае рэлігію, прапаведуе зладзейства, махлярства, забойства, зьбіваньне цэлых народаў, — зьяўляецца па сутнасьці злачынным. Тым больш, іх рэлігійная злачыннасьць асьвечана самім іх Богам. Яўрэі ня могуць быць раўнапраўнымі з хрысьціянскім народам" (ст. 131).*

Крама "Праваслаўная кніга", якая зьяўляецца падразьдзяленьнем ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва", працягвае продаж кніжак антысеміцкага і антыкаталіцкага зьместу. У прыватнасьці, цяпер у продажы знаходзяцца кнігі М.Міронава "О еврейском фашизме" і Г.Аляксеева "Римо-католичество и экуменизм".

Першая з іх ня мае ніякіх выходных дадзеных. Продаж такой прадукцыі забаронены законам. Вось некалькі цытатаў з кнігі Б.Міронава "О еврейском фашизме":

*"Не ад таго ў Расіі дрэнна, што з яе зьехалі жыды, Расіі дрэнна ад нязьехаўшых жыдоў. Расіі дрэнна ад таго, што ня ўсе жыды з яе зьехалі" (ст.9).*

*"Калі адзін народ высмоктвае кроў з іншага народу, тлусьцее і жырue на бедах і пакутах іншага народу – гэта і ёсьць фашызм. Калі бяднее, галадуе, вымірае рускі народ, і на гэтым багацее, тлусьцее і жырue яўрэйскі народ – гэта і ёсьць яўрэйскі фашызм" (ст. 14-15).*

Дарэчы, аўтар не хавае, а бравіруе-пахваляецца тым, што зьяўляўся старшынёй Камітэту Расійскай Федэрацыі па друку.

Стрэлы гневу другой кнігі "Римо-католичество и экуменизм" накіраваныя супраць каталіцтва. Нічога не вядома пра аўтара кнігі, але ў прадмове выказаная "удзячнасьць сьвятару Максіму Казлову, дацэнту Маскоўскай духоўнай акадэміі, які прачытаў рукапіс брашуры і ўнёс шэраг істотных заўвагаў у яе зьмест". Ідэя кнігі ўтрымліваецца ў адным выразе, які выдзелены ў тэксьце тлустым шрыфтам:

*"Рыма-каталіцтва зьяўляецца антыхрысьціянскай рэлігіяй, якая знаходзіцца пад кантролем Сатаны і вядзе барацьбу супраць Бога (Прасьвятой Тройцы і Хрыста) і Ягонага Адкрыцьця (Новага Запавету), асноватворчага дзеля стварэньня сусьветнай універсальнай рэлігіі і царквы" (ст. 21).*

Уся гэтая літаратура, якая прадаецца пад апякунствам Беларускай праваслаўнай царквы і пры відавочнай падтрымцы з боку тых, хто мае ўладу, распальвае міжнацыянальную і міжканфесійную варожасьць і немінуча прывядзе да катастрафічных наступстваў для Беларусі, закране іншыя краіны, у першую чаргу Расію.

Вельмі дзіўнай выглядае пазіцыя Дзяржавы Ізраіль. Высокапастаўленых чыноўнікаў беларускай дзяржавы ня толькі прымаюць у яўрэйскай дзяржаве, але і падпісваюць міжурадавыя пагадненьні.

Зьдзіўляе адсутнасьць у праекце рэзалюцыі №304 Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША, прынятай Камітэтам па міжнародных адносінах, рэакцыі на ўзрастаючую напружанасьць у нацыянальных і міжканфесійных адносінах у Беларусі. Маўчаць урады еўрапейскіх краінаў, якія бурна рэагавалі на зусім нядаўнія падзеі ў Аўстрыі.

Усё гэта знаёма па трыццатых гадах дваццатага стагодзьдзя, калі сьвет моўчкі назіраў за ўмацаваньнем улады Гітлера і дачакаўся другой сусьветнай вайны.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна"**

# Суды і прысуды

## Працягваюцца судовыя разгляды справаў грамадзянаў, якія былі затрыманыя 25-га сакавіка на Дзень Волі

***19 красавіка*** ў судзе Савецкага раёну г.Мінску адбыўся суд над жыхаром г.Маладэчна *Алесем Капуцкім*. А.Капуцкі быў затрыманы 25 сакавіка на вул. Варвашэні, 8 (сядзіба БНФ "Адраджэньне"). У якасьці сьведкаў на судзе выступалі супрацоўнікі міліцыі Аляксандр Раманоўскі і Валянцін Шыманскі, у рапартах якіх першапачаткова было ўказана месца затрыманьня А. Капуцкага – плошча Якуба Коласа, і час затрыманьня таксама не адпавядаў рэчаіснасьці. Пры гэтым рапарт А.Шыманскага быў напісаны рознымі почыркамі. На судзе А.Шыманскі тлумачыў, што почырк у яго няўстойлівы, залежыць ад таго "як павернецца папера". Апроч таго, А.Шыманскі казаў, што складаў рапарт пасьля 17 гадзінаў, хаця рапарт павінен быць напісаны на працягу трох гадзінаў пасьля затрыманьня, а А.Капуцкі быў затрыманы ў 11.30. Нягледзячы на ўсе гэтыя акалічнасьці, судзьдзя Людміла Савасьцян вынесла А.Капуцкаму папярэджаньне.

***28 красавіка*** непаўнагадовы С.Карашчанка быў выкліканы ў камісію па справах непаўнагадовых Партызанскага раёну за тое, што ён быў затрыманы супрацоўнікамі АМАПу 25 сакавіка каля універсаму "Сталічны", які знаходзіцца побач з плошчай Якуба Коласа, дзе ў той час адбывалася несанкцыянаваная гарадзкімі ўладамі апазіцыйная акцыя "Дзень Волі-2000". У той дзень С.Карашчанка разам са сваёй знаёмай зьбіраўся ісьці па справах у ЦУМ, але разам з іншымі людзьмі быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Пасьля затрыманьня падлетак быў дастаўлены ў Савецкі РАУС, дзе на яго быў складзены пратакол па арт.167.1 КаАП РБ. У рапарце пра затрыманьне было ўжо шмат каму знаёмае прозьвішча А.Раманоўскага, які набыў "вядомасьць" тым, што на судовых разьбіральніцтвах даваў ілжывыя сьведчаньні.

На камісіі па справах непаўнагадовых хлопцу нагадалі,што ў яго ўжо другое затрыманьне па арт.167.1 КаАП РБ. Выслухаўшы тлумачэньні С.Карашчанкі наконт ягонага затрыманьня і ўлічыўшы тое, што ён ня мае трывалага заробку, яму вынеслі строгую вымову.

***26 красавіка*** Ленінскі раённы суд г. Бабруйску пад старшынствам судзьдзі Галіны Севасьцьянчык вынес папярэджаньне дырэктару Бабруйскага рэгіянальнага Інфармацыйна-прававога цэнтру сп. Вячаславу Сьвізунову за арганізацыю сьвята "Дзень Волі" на гарадзкой плошчы Перамогі без дазволу ўладаў. Сп. Сьвізуноў сваёй віны не прызнаў і заявіў: "Нам калі і даюць дазвол на правядзеньне нашых мерапрыемстваў, дык на ўскраіне гораду, на стадыёне "Фандок", куды трэба дабірацца пешшу. Аднак акцыі грамадзянскага непадпарадкаваньня, кшталту праведзеных Ланцуга Свабоды, Акцыі Любові, Дня Волі будуць працягвацца да таго часу, пакуль мясцовыя ўлады не дазволяць нам праводзіць кожнае нашае мерапрыемства на плошчы Перамогі". Судовыя працэсы над удзельнікамі Дня Волі ў Бабруйску працягваюцца.

*Працяг. Пачатак у № 6-7.*

# Рай для зьняволеных?

Як і ў любым месцы зьняволеньня, у стакгольмскім ізалятары свой рэжым. Зьняволеныя сядзяць па адным у камеры. Па законе яны маюць права сустракацца з іншымі людзьмі, вучыцца, гуляць. Але "па тэхнічных прычынах сьледзтва" пракурор можа ўвесьці ў стасункі падсьледнага шэраг магчымых абмежаваньняў. Яму могуць забараніць сустрэчы, тэлефанаваньні і ліставаньне з воляю.

Наконт сустрэчаў шмат казаць ня буду – спатканьне з роднымі, сябрамі ці знаёмымі вязьням дазваляецца "не часьцей аднаго разу на тыдзень". Болей нельга, бо на ўсіх жадаючых не хопіць месцаў. Паміж сабой зьняволеныя кантактуюць увесь дзень, толькі пасьля вячэры іхнія камеры зачыняюць на замкі. Калі стасункі для кагосьці абмежаваныя ў інтарэсах сьледзтва, чалавек можа сядзець у камеры альбо выводзіцца ў адмысловы пакой для сустрэчаў, каб пагуляць у шахматы ці пагаварыць з іншым зьняволеным (які не праходзіць па той жа справе).

Лісты тут, у адрозьненьне ад нашых "валадарак", пісаць на волю можна. Зразумела, іх правярае паліцэйская ахова. Толькі не на зьмест, як у нас і ў турме і на волі, а на наяўнасьць наркотыкаў. Гэта сапраўды праблема для Швецыі. Спадар Ландэбрынк не разумеў, навошта яшчэ і чытаць лісты вязьняў, хоць я спрабавала падказаць: "У інтарэсах сьледзтва". – "Але ж пракурор дазволіў яму перапіску!" — нагадвае намесьнік начальніка. Значыць, маўляў, усё нармалёва са сьледзтвам. Я пачынаю адчуваць сябе бруднай шпіёнкай фашыстоўскага рэжыму з садысцкімі схільнасьцямі.

Калі шведзкія зьняволеныя зрэдку скардзяцца на ўмовы ўтрыманьня, самая распаўсюджаная скарга – на занадта доўгую адзіноту...

У турме нас уразілі тэлефоны-аўтаматы. Яны маюцца на кожным паверсе і могуць перасоўвацца на колах да любой камеры. З дапамогай тэлефоннай карткі можна патэлефанаваць куды хочаш, нават не выходзячы з камеры – для гэтага ў дзьвярах зроблена адмысловае акенца, каб можна было расчыніць яго і высунуць да тэлефону руку. Вельмі зручна, калі вязень мае абмежаваньні ў рэжыме стасункаў. Усяго ж такія абмежаваньні ў той ці іншай ступені маюць каля 40 працэнтаў падсьледных. Праўда, забароны не датычацца ў зносіны зьняволеных з прадстаўнікамі іх абароны: да адваката званкі бясплатныя, за кошт дзяржавы.

Перадачы з волі тут не абмяжоўваюцца ў вазе і колькасьці, хоць існуе пералік забароненых рэчаў. Нельга, скажам, перадаць ў СІЗА віно, кветкі ў гаршку (у іх могуць быць схаваныя наркотыкі ці нешта забароненае) і тытунь. Апошняе прадыктавана ня толькі тым, што шведы ўвогуле нашмат менш за нас паляць. Проста цыгарэты, як і садавіну з гароднінай, кандытарскія вырабы, паштовыя маркі, можна набыць у краме турмы.

А якую інфармацыю пра падзеі на волі чэрпае вязень з тутэйшых масмедыя? Мяркуючы па расповядах, тую ж, што і людзі па той бок кратаў. Газеты тут выпісваць ня трэба, бо дзённую прэсу можна чытаць вольна і бясплатна (вячэрнюю, праўда, у турму не пасьпяваюць своечасова дастаўляць). Тэлевізію (пяць шведзкіх каналаў) можна глядзець хоць цэлыя суткі. Па-першае, у камерах ёсьць маленькія тэлевізары, а па-другое – электрычнасьць тут не адключаецца нават ноччу(!). Гэта не Беларусь, дзе хворы чалавек, чыя віна нават не даказаная судом, ня мае магчымасьці ўвечары зрабіць сабе звычайнай гарбаты.

Права на інфармацыю, аднак, часам абмяжоўваецца і для шведзкіх вязьняў. Бывала, кажа спадар Ландэбрынк, што адмыслова не прыносілі ім пэўныя нумары газетаў, нават часова адключалі тэлевізію. У чым жа справа? У тым, што шведзкія мас-медыя часам шырока і падрабязна асьвятляюць "гучныя" крымінальныя злачынствы. Адміністрацыя турмы лічыць такую інфармацыю шкоднай для людзей пад вартай. І, напэўна, у гэтым ёсьць здаровы сэнс.

А вось чытаньне кніг у стакгольмскім СІЗА – справа ўдзячная. Кнігі можна заказаць у турэмнай бібліятэцы (іх тут 50 тысяч на 30 мовах). Работнікі бібліятэкі кладуць літаратуру на столікі на калёсах і развозяць вязьням. Калі ж патрэбнай камусьці кнігі не знаходзяць, яе заказваюць на пэўны тэрмін ў звычайнай гарадзкой бібліятэцы.

Нам распавялі, што ў СІЗА маецца дзесяць месцаў для хворых затрыманых ці для тых, хто, як выказаўся наш экскурсавод, "патрабуе больш дагляду". Менавіта "дагляду" – слова "нагляд" не любяць вымаўляць тутэйшыя ахоўнікі і паліцэйскія. Хворых адпраўляюць не ў турэмны, а ў звычайны гарадзкі шпіталь – калі трэба, са сьпецыяльнай аховай. Але праблемы перадаць лекі тут і без таго ніколі не існуе. Да таго ж, бачна, што ўлады краіны клапоцяцца пра здароўе любога грамадзяніна, нават калі ён заблытаўся ў жыцьці і крымінальным кодэксе.



Турэмны тэлефон.



Турэмная камера.

Законам забаронена караць вязьняў пазбаўленьнем прагулак. І мы пабачылі месцы гэтых прагулак...

Калі дзеці скажуць вам, што Швецыя – краіна Карлсана, які жыве на даху, можаце адказаць ім праўду: на даху тут таксама "жывуць"... зьняволеныя. Напэўна, ёсьць істотная розьніца, што адкрываецца твайму погляду ў час дыханьня сьвежым паветрам: сьцены з усіх бакоў і неба над галавой – альбо панарама вялікага, прыгожага, старажытнага гораду за агароджай? Збоку ад агароджаў для прагулак знаходзіцца кабінка аховы з пультам аператыўнай сувязі. Падобная ж кабіна – у спартыўнай зале. Гэта нязвыкла для нас, жыхароў Беларусі, але гэта так: шведзкі зьняволены можа гуляць у тэніс ці валейбол, займацца на шматлікіх трэнажорах і г.д. Вядома, калі ён ня мае істотных абмежаваньняў у рэжыме і стасунках. А большасьць часовага "насельніцтва" СІЗА ня мае іх.

Вядома, што многія вязьні ў турмах любяць майстраваць розныя рэчы: хто асадкі, хто – куфэркі, хто – малюнкі на вопратцы. У Швецыі турэмнае начальства заахвочвае творчыя заняткі зьняволеных. Так, у жаночым аддзяленьні ізалятару мы пабачылі, як жанчыны шыюць на швейных машынках, вяжуць (выбар тканінаў і нітак у турэмнай краме даволі неблагі, асабліва для месца зьняволеньня). Адміністрацыя час ад часу ладзіць нават выставы прадметаў рукадзельля ці іншых вырабаў сваіх "пастаяльцаў". Заахвочваецца таксама і прыгатаваньне імі самастойна рознай ежы, скажам, выпечка пірагоў. Для гэтага маецца адмысловая кухня з духоўкай ды іншым абсталяваньнем, а прадукты можна, зноў жа, набыць у турэмнай краме ці праз перадачы з волі.

**Тацяна СЬНІТКО.**

*(Працяг. Пачатак у № 7)*

*(Працяг будзе)*

**Правы на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.**
**Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220013 Менск, а/с 49.**
**E-mail:viasna@spring96.org**
**www.spring96.org**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*